# ЛІНГВІСТЫЧНАЯ ГЕАГРАФІЯ І ГРУПОЎКА БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК



МІНСК · 1969

АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА імя ЯКУБА КОЛАСА

# ЛІНГВІСТЫЧНАЯ ГЕАГРАФІЯ І ГРУПОЎКА БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК

Пад рэдакцыяй члена-карэспандэнта Акадэміі навук СССР Р.І. АВАНЕСАВА, акадэміка Акадэміі навук БССР К.К. АТРАХОВІЧА (КРАПІВЫ) і доктара філалагічных навук Ю.Ф. МАЦКЕВІЧ

Выдавецтва „Навука і тэхніка“
Мінск 1969

## АЎТАРСКІ КАЛЕКТЫЎ

Р.І. АВАНЕСАЎ, член-карэспандэнт АН СССР
А.У. АРАШОНКАВА, кандыдат філалагічных навук
М.В. БІРЫЛА, кандыдат філалагічных навук
Н.Т. ВАЙТОВІЧ, доктар філалагічных навук
А.П. ГРУЦО, кандыдат філалагічных навук
І.П. КАВАЛЬЧУК, малодшы навуковы супрацоўнік
А.А. КРЫВІЦКІ, кандыдат філалагічных навук
Ю.Ф. МАЦКЕВІЧ, доктар філалагічных навук
Я.М. РАМАНОВІЧ, кандыдат філалагічных навук
А.І. ЧАБЯРУК, малодшы навуковы супрацоўнік

У падрыхтоўцы манаграфіі да выдання вялікі ўдзел прымаў кандыдат філалагічных навук М.Р. СУДНІК

## РАЗМЕРКАВАННЕ АЎТАРСКАЙ РАБОТЫ

Кнігу карт ізаглос і кнігу інтэрпрэтацыі ізаглос падрыхтавалі:

Р.І. АВАНЕСАЎ – карты №№ 71-80; інтэрпрэт. стар. 3-18; 179-206
А.У. АРАШОНКАВА – карты №№ 9-11, 14, 22-28, 30-34, 69, 70; інтэрпрэт. стар. 28-34, 36, 71-78, 82-89, 177-178, 246-252
М.В. БІРЫЛА – карты №№ 15,16; інтэрпрэт. стар. 37-38, 41-44, 230-246
Н.Т. ВАЙТОВІЧ – карта № 45; інтэрпрэт. стар. 112-114, 130, 207-223
А.П. ГРУЦО – карты №№ 1-8, 12, 13, 60; інтэрпрэт. стар. 19-28, 34-35, 149-151, 252-259
І.П. КАВАЛЬЧУК – карты №№ 53, 56-58; інтэрпрэт. стар. 133-134, 139-145, 273-277
А.А. КРЫВІЦКІ – карты №№ 35-44, 46-51, 65-68; інтэрпрэт. стар. 89-112, 114-129, 163-176, 277-309
Ю.Ф. МАЦКЕВІЧ – карты №№ 15, 16 (сумесна з М.В. БІРЫЛАМ), 17-19, 63; інтэрпрэт. стар. 38-41, 44-62, 155-160, 259-270
Я.М. РАМАНОВІЧ – карты №№ 21, 29, 59, 61, 62, 64; інтэрпрэт. стар. 63-71, 79-82, 146-149, 151-155, 160-163, 270-277
А.І. ЧАБЯРУК – карты №№ 20, 52, 54, 55; інтэрпрэт. стар. 62-63, 131-133, 134-139, 223-230

У першапачатковай апрацоўцы часткі карт ізаглос прымалі ўдзел кандыдат філалагічных навук А.Р. МУРАШКА і малодшы навуковы супрацоўнік В.М.ШЭЛЕГ

Рэдактары-картографы: Г.І. Гулюк, Л.П. Колабава, М.С. Руткоўская

# ЗМЕСТ

## ТЫПАЛОГІЯ ІЗАГЛОС



## ДЫЯЛЕКТНЫ ПАДЗЕЛ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

# ДАМАЧЭЎСКА - ЦЕЛЯХАНСКА - СТОЛІНСКІ ПУЧОК




Наяўнасць ці адсутнасць пратэтычных [в],[γ],[h] перад пачатковымі націскнымі [о], [у] (ДАБМ, карта 47): [г]*óз'ера* : [в]*óз'ера, óз'ера*

Форма назоўнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў, якія абазначаюць маладых істот (ДАБМ, карта 84): *цялé : цялЯ́, цялЁ, цялЁнак, ц'ал ёнка, цялЮк, тылéта*

Форма роднага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду з цвёрдай асновай (ДАБМ, карта 101): *ха́тэй, хатэ́й : хат, ха́таў*

Назвы столі (ДАБМ, карта 228): *пова́л : столь, патало́к, пако́т, по́лак* і інш.

Назвы франтона (ДАБМ, карта 230): *фацыя́т : шчыт, зако́т, лоб, застрэ́шак* і інш.

Назвы абложнай зямлі (ДАБМ, карта 275): *злог : абло́га, я́лавіна, дзірва́н, памёт* і інш.

Назвы непакладанага быка (ДАБМ, карта 290): *буя́н : бык, буга́й, ста́днік*

# КАМЯНЕЦКА - БЯРОЗАЎСКА - ПІНСКІ ПУЧОК

**Карта №2**




Назвы ўсходаў азімых (ДАБМ, карта 268 ): *сыўба́ : рунь, скарада́, усхо́ды*

Форма роднага склону адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду прыналежных займеннікаў *мой, твой, свой* (ДАБМ, карта 139): *маёго : майго́, майга́, маяго́*

Форма роднага склону адзіночнага ліку жаночага роду прыналежных займеннікаў *мой, твой, свой* (ДАБМ, карта 140): *у мае́е : у мае́й, у маёй, у мае́*

Агульныя назвы зжатага поля і назвы зжатага поля, на якім расло жыта (ДАБМ, карты 269, 271): *стырня́ : по́жня, жні́унік, ржы́шча* і інш.

Назвы часткі цэпа–біча (ДАБМ, карта 258): *бія́к : біч, бі́чык, бічу́к, біцу́к, бічо́ўка. абічо́ўка*

Словы са значэннем ’латаць’ (ДАБМ, карта 323): *лата́ць, лата́ты : ла́тацьб, ла́піць, крапі́ць*

Месца націску і націскны галосны ў канчатку 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў I спражэння (ДАБМ, карта 152): *н'ас'е́ц'е, несе́те : н'ас'иц'о́, н'ес'ац'е́, н'ас'о́ц'е*

# КАМЯНЕЦКА - АНТОПАЛЬСКА - ДЗІВІНСКІ ПУЧОК

Карта №3




Форма меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў, якія абазначаюць маладых істот тыпу *цяля* (*цялё*) (ДАБМ, карта 88): *аб тэля́таві* : *аб цяля́ці, аб цялю́, аб цялёнку*

Націскны канчатак меснага склону адзіночнага ліку неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з мяккай асновай (ДАБМ, карта 78): *на пнёві* : *на пні, на пню, на пне*

Націскны канчатак меснага склону адзіночнага ліку неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з зацвярдзелай асновай (ДАБМ, карта 77): *на канцо́ві* : *на канцу́, на канцэ́*

Форма меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў *кажух, катух* (ДАБМ, карта 75): *у кажухо́вы, у кажу́хавы* : *у кажуху́, у кажу́ху, у кажусе́, у кажу́се*

Форма меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на [г] (ДАБМ, карта 74): *на лугóві, на лу́гаві* : *на лу́зе, на лузе́, на лу́ге, на луге́*

КАМЯНЕЦКА - ПРУЖАНСКА - ПІНСКІ ПУЧОК

Карта № 4




Ненаціскны канчатак творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на „а" з мяккай асновай і яго вымаўленне (ДАБМ, карта 72): *віш[н'ийу], віш[н'ьйу]* : *віш[н'айу], віш[н'ай], віш[н'ий], віш[н'ьй]*

Дзеясловы з суфіксам **-ва-** без папярэдняга галоснага або з тым ці іншым папярэднім галосным [**-ва-,-ыва-, -ъва-,-ава-, -ува-,-ова-**] (ДАБМ, карта 25): *раска́з[ува]ць, раска́з[ова]ць* : *раска́з[ва]ць, раска́з[ыва]ць* і інш.

Галосны на месцы „е" ў паслянаціскным закрытым канцавым складзе ў аснове слова (ДАБМ, карта 16): *во́[сы]нь* : *во́[с'и]нь, во́[с'ъ]нь, во́[с'е]нь*

Месца націску ў слове *рошчына* (ДАБМ, карта 194): *рашчы́на* : *ро́шчына*

Форма назоўнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў са старым коранем **дѣт-** (ДАБМ, карта 85): *дыты́на* : *дзіця́, дзі́ця, (дзе́ця), дзіцё, дзіцянё, дзіцёнак*

Націскны канчатак меснага склону адзіночнага ліку адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на [к] (ДАБМ, карта 73): *на быко́ві, на быке́ві* : *на быку́, на быке́*

Вымаўленне слова *быў* (ДАБМ, карта 40): *був* : *быў, буў, б'иў*

Ненаціскны канчатак меснага склону адзіночнага ліку адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з цвёрдай асновай (ДАБМ, карта 79): *аб сы́наві* : *аб сы́ну, аб сы́не*

Форма роднага склону адзіночнага ліку назоўнікаў, якія абазначаюць маладых істот тыпу *цяля (цялё)* (ДАБМ, карта 86): *тэля́та, тэле́та* : *цяля́ці, цялёнка, цялюка́*

# КАМЯНЕЦКА - ПІНСКА - СТОЛІНСКІ ПУЧОК

Карта №5




Галосны на месцы „е“ ў другім складзе перад націскам у прыстаўцы **пера-** (ДАБМ, карта 10): *[пы]рамыць* : *[п'и]рамыць, [п'е]рамыць, [п'а]рамыць, [па]рамыць*

Галосны на месцы „е“ ў трэцім складзе перад націскам (ДАБМ, карта 11): *[вы]рацянó* : *[в'и]рацянó, [в'ъ]рацянó, [в'е]рацянó, [в'а]рацянó, [ва]рацянó*

Галосны на месцы „е“ (з „е“ і „ě“) у паслянаціскным неканцавым адкрытым складзе (ДАБМ, карта 15): *вó[зы]ра* : *вó[з'и]ра, вó[з'ъ]ра, вó[з'е]ра, вó[з'а]ра*

Форма роднага склону адзіночнага ліку жаночага роду ўказальнага займенніка *тая* (ДАБМ, карта 135): *тэ́е* : *той, тóе, таé, таéй* і інш.

Форма творнага склону адзіночнага ліку жаночага роду ўказальнага займенніка *тая* (ДАБМ, карта 137): *за тэ́ю* : *за той, за туй, за тóю, за таéй* і інш.

Галосны на месцы тэматычнага „е“ ў ненаціскным канчатку 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў І спражэння (ДАБМ, карта 151): *мéл'имо (мéлымо)* : *м'éл'ам, м'éл'ем, (мéл'емо), м'éл'им, м'éл'ом, (мéл'омо)*

Вымаўленне слова *авёс* (ДАБМ, карта 29): *овéс* : *авóс, авйóс, ав'йóс* і інш.

Неадрозніванне і адрозніванне цвёрдасці- мяккасці [р] (ДАБМ, карта 42): *гó[р]ад, г[р]ом, ку[р'ú]ць, [р'é]заць, ку[р'ý], за[р'á], сухá[р']* : *гó[р]ад, г[р]ом, ку[ры́]ць, [р]э́заць, ку[р]ý, за[р]á, сухá[р]*

Пашырэнне слоў *студня, калодзезь (калодеж, калодзец)* (ДАБМ, карта 241): *калóдзяз* : *калóдзезь, калóдзеж, калóдзец*

Форма вышэйшай ступені прыметніка *тонкі* (ДАБМ, карта 131): *тонч, тоньч, тóнчы, тóньчы* : *тонш, тоньш, тóншы, тóньшы, танчэ́й, танчэ́йшы, танéй, танéйшы*

Націскны канчатак назоўнага склону множнага ліку прыметнікаў (ДАБМ, карта 127): *маладыі, маладыі* : *маладыя (е), маладэ́я*

Націскны і ненаціскны канчатак меснага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду (ДАБМ, карты 117, 118): *аб маладóму, у жóўтому* : *аб маладым, аб маладóм, у жóўтым (-ом, -ам, -ум)*

Утварэнне назоўнікаў з коранем **бров-** (ДАБМ, карта 108): *мая брóва* : *мая брывá, маё брывó, маё брóва, мая бравіна* і інш.

## КАМЯНЕЦКА - ЦЕЛЯХАНСКА - СТОЛІНСКІ ПУЧОК

**Карта №6**




Галосны на месцы этымалагічнага „ě“ ў націскным складзе (ДАБМ, карта 34): *[л'и]с : [л'е]с, [л'ê]с, [л'ие]с*

Наяўнасць мяккіх ці цвёрдых [д], [т], (мяккіх [дз'], [ц'] або [д'], [т'] ці цвёрдых [д], [т]) у пазіцыі перад націскным галосным, які адпавядае этымалагічнаму „ě“ (ДАБМ, карта 57): *[де]д, [д'е]д, [д'ê]д, [д'ие]д, [д'и]д, [тé]ста, [т'é]ста, [т'ê]ста, [т'ие]ста, [т'и]ста : [дз'е]д, [дз'ê]д, [дз'ие]д, [дз'и]д, [ц'é]ста, [ц'ê]ста, [ц'ие]ста, [ц'и]ста*

Форма 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу дзеясловаў І спражэння (ДАБМ, карта 170): *ид'ите [идúте] : идз'иц'а, идз'ит', (идз'éц'е), (идз'ê̂ц'е), идз'éц' (идз'éт')*

Форма назоўнага склону множнага ліку азначальнага займенніка *увесь* (ДАБМ, карта 141): *ус'и, вс'и, всы : ус'é, вс'е, всê, ус'ê, ус'ие, вс'ê*

Зычныя на месцы мяккага губнога „м“ у пазіцыі перад „а“ (ДАБМ, карта 51): *[мн']áса : [м']áса, [мй]áса*

Наяўнасць мяккіх ці цвёрдых [з], [с] у пазіцыі перад „е“, „и“ (ДАБМ, карта 55): *[зе]лёны, [сé]мя, [зы]мá, [сыла] : [з'е]лёны, [с'é]мя, [з'и]мá, [си́]ла*

Наяўнасць мяккіх ці цвёрдых [д], [т], (мяккіх [дз'], [ц'] або [д'], [т'] ці цвёрдых [д], [т]) у пазіцыі перад „е“, „и“ (ДАБМ, карта 56): *и[ды́], [ты́]ха, [де]нь, [те]нь : и[дз'и́], [ц'и́]ха, [дз'е]нь, [ц'е]нь, [ид']и́, [т'и́]ха, [д'е]нь, [т'е]нь*

Наяўнасць мяккіх ці цвёрдых губных [б], [п], [м], [в] у пазіцыі перад „и“ (ДАБМ, карта 52): *[б]ыць, [п]ыць, [м]ыска : [б']іць, [п']іць, [м']íска*

Форма меснага склону адзіночнага ліку жаночага роду з асновай на „к“ (ДАБМ, карта 66): *на рацы́ : на рацэ́, на ракé*

Форма творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў, якія абазначаюць маладых істот тыпу *цяля (цялё)* (ДАБМ, карта 87): *цяля́там : цялём, цялéм, цéлям, цяля́цем, цялёнкам*

Націскны канчатак роднага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду (ДАБМ, карта 119): *маладóі дзéўкі : маладэ́й дзéўкі, маладэ́е дзéўкі, малады́й дзéўкі, малады́е дзéўкі*

Ненаціскны канчатак роднага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду (ДАБМ, карта 120): *нóвы́ хáты : нóвай хáты, нóвэй хáты*




Зычны асновы і націскны галосны ў 1-й асобе множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў І спражэння (ДАБМ, карта 150): *идéм (идéмо) : идз'óм, идз'éм (ид'éмо), идóм (идôм)*

Дзеясловы, якія абазначаюць працэс баранавання (ДАБМ, карта 266): *валачы́ц' : бараніць, скарадзíць, пахáць, прыбівáць*

Цвёрды і мяккі зычны і ненаціскны галосны ў канчатку 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў І спражэння (ДАБМ, карта 156): *мéл'ут', мéл'ут, м'éл'ат', м'éл'ет', мéл'ат : м'éл'уц', м'éл'уц, м'éл'ац'*

Назвы праніка (прылады, якой пераць бялізну) (ДАБМ, карта 252): *прач : пра́нік, апра́ннік, пра́ннік, пра́йнік, пра́льнік.*

Пашырэнне пытальных часціц *ці, чы* (ДАБМ, карта 226): *чы : ці*

## ПРУЖАНСКА - ЛУНІНЕЦКА - ДАВЫД - ГАРАДОЦКІ ПУЧОК






Галосны на месцы „е“, „ě“, „'а“ ў першым складзе перад націскам у гаворках з поўным ці частковым адрозніваннем галосных няверхняга пад'ёму (ДАБМ, карты 5–7): *[вы]сна́, [в'и]сна́ [ве]сна́, [в'е]сна́, [бы]да́, [б'и]да́, [бе]да́, [б'е]да́, [пе]та́, [п'е]та́, [пие]та́, [пы]та́, [п'и]та́, [п'а]та́,* і інш.: поўнае ці частковае адрозніванне галосных няверхняга пад'ёму на месцы „е“, „ě“, „'а“ і супадзенне іх пасля мяккіх зычных у адным гуку

Наяўнасць мяккіх ці цвёрдых губных [б], [п], [м], [в] у пазіцыі перад „е“ (ДАБМ, карта 53):
*гра[бé], на [пé]чы, [мé]сці, [вé]чар : гра[б'é], на [п'é]чы, [м'é]сці, [в'é]чар*

Назвы будынка, у якім складаюць снапы, салому (ДАБМ, карта 235):
*клу́ня, клю́ня : гумно́, гунно́*

Канчатак меснага склону адзіночнага ліку назоўніка *двор* (ДАБМ, карта 76):
*на дварí : на дварэ́, на дво́ры, на двару́*

Назвы сцяблоў і лісця гароху (ДАБМ, карта 278):
*гарахвя́нне : гарахвя́нік, гаро́хвіны, гаро́шыны* і інш.

Назвы пакладанага кабана (ДАБМ, карта 292):
*вяпру́к : паршу́к, япру́к, вапéр, по́тсвінак, бо́раў*

Форма інфінітыва дзеяслова *пасвіць* (ДАБМ, карта 177):
*па́с'ц'и, па́сты, пас'ц'и́, пасты́ : па́с'в'иц', па́свыты, па́с'ц'иц', пас'ц', паст, па́с'ц'ив'иц'* і інш.

ПРУЖАНСКА - ЛУНІНЕЦКА - ТУРАЎСКІ ПУЧОК

Карта №9




Вымаўленне займенніка *вы* (ДАБМ, карта 38): *в'и, в'йт'е, в'йте* : *вы, ву*

Вымаўленне слова *што* (ДАБМ, карта 63): *шчо, шо* : *што*

Назвы пабудовы са сценамі для гаспадарчых прылад (ДАБМ, карта 238): *шόпа, шόпка* : *павéць, шур* і інш

Назвы зруба ў студні (ДАБМ, карта 245): *скрыня* : *зруб, струб, зрубóк..., тын* і інш.

Утварэнне адноснага прыметніка ад слова *гусь* (ДАБМ, карта 184): *гусячы* : *гусíны*




Галосны на месцы „о" ў першым і другім пераднаціскных складах і ў паслянаціскным адкрытым неканцавым і закрытым канцавым складах у аснове слова (ДАБМ, карты 1, 2, 8, 9, 12, 13): *в[о]дá, г[о]ловá, м[о]лады́, г[о]лубóў, гóр[о]да, гóр[о]д* : *в[а]дá, г[а]лавá, м[а]лады́, гóр[а]да, гóр[а]д*

Пашырэнне форм з [ʼо] ў ненаціскных канчатках ускосных склонаў адзіночнага ліку прыметнікаў з асновай на мяккі зычны (ДАБМ, карта 116): *сʼи́нʼоγо, сʼи́нʼому* : *сʼи́нʼаγа, сʼи́нʼаму* ...

Зычны асновы дзеясловаў II спражэння на губны ў парадыгме цяперашняга часу (ДАБМ, карта 160): *лóўлʼу, лóўлʼатʼ* : *лаўлʼу́, лóвʼац*

Ненаціскны канчатак назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў ніякага роду (ДАБМ, карта 115): *нóвэ* : *нóвае, нóваё* і інш.

Указальна-асабовы займеннік 3-й асобы з пратэтычным [j] або [в] (ДАБМ, карта 133): *вон, вонá*...: *йон, йанá* ...

Форма назоўнага склону множнага ліку назоўніка *балота* (ДАБМ, карта 98): *балатá, балота* : *балóты*

Утварэнне адноснага прыметніка ад слова *свіння* (ДАБМ, карта 183): *свіня́чы* : *свіны́, свіні́ны* і інш.




Галосны на месцы „е“ ў канцавым адкрытым складзе ў форме назоўна-вінавальнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў ніякага роду з мяккай асновай (ДАБМ, карта 17): *кам'е́нн'е : кам'е́нн'а, кам'е́нн'о*

Форма творнага склону адзіночнага ліку назоўніка *старшыня* (ДАБМ, карта 92): *старшыно́й : старшыне́й, старшыно́м, старшынё́м*

Утварэнне будучага складанага часу (ДАБМ, карта 166): *рабі́цьмеш ... : бу́ду рабі́ць, бу́дзеш рабі́ць* і г. д.

Пашырэнне канструкцый тыпу *былі тае зімы, жалі гэтае пары* (ДАБМ, карта 219): адзначана ўжыванне словазлучэнняў *былі́ тае́ зімы́* і інш. : ужыванне такіх спалучэнняў не адзначаецца

## ВАЎКАВЫСКА - БАРАНАВІЦКА - ЛУНІНЕЦКІ ПУЧОК

Карта №12




Форма інфінітыва дзеясловаў з асновай на галосны (ДАБМ, карта 173): *садз'и́ц'и (сады́ты) : садз'и́ц' (садз'и́т'), сад'и́т' (сад'и́т), садз'и́ц*

Назвы сцяблоў і лісця агуркоў (ДАБМ, карта 279): *гуркаве́нне : агуро́чнік, гурко́ўнік*

Назвы сцяблоў і лісця бульбы (ДАБМ, карта 281): *картафле́нне : бульбо́ўнік, курдо́пнік, наці́на* і інш.

Пашырэнне слоў *каршун, шуляк, ястраб* (ДАБМ, карта 310): *шуля́к : каршу́н, ко́ршак, карша́к, каршу́к*

Назвы ручкі касы (ДАБМ, карта 260): *ку́лька : рукая́тка, рукавя́тка, пупо́к, па́лец* і інш.

Назвы кальца, якім замацоўваецца каса на касільне (ДАБМ, карта 261): *напа́рстак : ба́нька, рэ́хва, гры́вянка*




Вымаўленне слова *памерла* (ДАБМ, карта 32): *пам'арла́, ум'арла́* : *пам'о́рла, пам'е́рла* і інш.
Вымаўленне слова *вуліца* (ДАБМ, карта 48): *γу́л'іца, γу́л'іц'а, γу́лыца, γу́лыц'а* : *ву́л'іца, ву́лыц'а* і інш.
Месца націску ў слове *весела* (ДАБМ, карта 201): *весяло́* : *ве́села, вясёла*
Назвы вочапа ў студні з жураўлём (ДАБМ, карта 244): *ключ, клю́чка, клю́ка* : *во́чап, по́чап, крук, кручо́к* і інш.
Назвы сцяблоў і лісця гарбузоў (ДАБМ, карта 280): *гарбузе́нне, гарбузаве́ня* : *гарбу́знік, гарбузе́ннік, гарбузо́ўнік, наці́на, ко́сы* і інш.

Месца націску ў слове *холадна* (ДАБМ, карта 202): *халадно́* : *хо́ладна, хало́дна*
Назвы вагі ў студні з жураўлём (ДАБМ, карта 243): *ко́варат, ко́вадыр, ко́варацень, калаваро́т, кало́вер* : *вага́, ва́га, ваг, страла́, журав́ель, жо́раў, жура́ў, асве́р, свер* і інш.

Назвы зжатага поля, на якім рос ячмень (ДАБМ, карта 272): *ячме́ніска, я́чніска* : *я́чнішча, я́чанне, ячме́нішча, ячме́нне*
Назвы зжатага поля, на якім рос авёс (ДАБМ, карта 273): *аўся́ніска, о́ўсіска, во́ўсіска, аўсі́ска* : *аўся́нішча, о́ўсішча, во́ўсішча, аўсі́шча, аўся́нне*

Назвы прывязкі, якой прымацоўваецца біч да цапільна (ДАБМ, карта 259): *ву́жык, у́жык, вуж, уж, ужо́ўка, вужо́ўка, гужо́ўка, ужо́к* : *гу́жык, гуж, гужо́к* і інш.

Дзеясловы, якія абазначаюць працэс ворыва (ДАБМ, карта 265): *гару́ць, го́руць* : *ару́ць, вару́ць, ара́юць, о́руць, во́руць*

Назвы верхніх мужчынскіх штаноў (ДАБМ, карта 326): *нагаві́цы, ганаві́цы* : *штаны́, по́ртні, брю́кі, ма́йткі*

Падзыўныя словы для гусей (ДАБМ, карта 307): *гусь-гусь* : *цэ-цэ-цэ, цэ́га-цэ́га, зю-зю-зю, зю́лю-зю́лю*




Наяўнасць ці адсутнасць пратэтычных [в], [γ], [h] перад пачатковымі націскнымі галоснымі [о], [у] (ДАБМ, карта 47): *о́з'ера, у́ха : [в]о́з'ера, [в]у́ха, [г]о́з'ера, [г]у́хо*

Цвёрдасць і мяккасць [с] зваротнай часціцы ў розных дзеяслоўных формах (ДАБМ, карта 165): *баю́са, садзі́ліса : баю́ся, садзі́лiся*

Форма роднага склону адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду прыналежных займеннікаў *мой, твой, свой* (ДАБМ, карта 139): *маго́, тваго́, сваго́ : майго́, твайго́, свайго́, маёго, тваёго, сваёго*

Назвы зжатага поля, на якім расло жыта (ДАБМ, карта 271): *по́жня : жы́тнішча, жы́тніско, ржы́шча, ржэ́ўнік* і інш.

Агульная назва зжатага поля (ДАБМ, карта 269): *по́жня* : назвы, утвораныя ад кораня **рж-** *(ржы́шча, ржэ́ўнік), сцёран, стырня́*

Пашырэнне канструкцый тыпу *еха́у на кані́, на возе* і *еха́ў канём, возам* (ДАБМ, карта 222): *е́хаў на кані́, на во́зе : е́хаў канём, во́зам*




Зычны на месцы старога спалучэння „нј“ (ДАБМ, карта 64): *насе́[н'й]е, во́се[н'й]ю, насе́[н'й]е, во́се[н'й]ю* і інш. : *насе́[н'н']е, во́се[н'н']ю* і інш.

Націскны канчатак назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з мяккай і зацвярдзелай асновай (ДАБМ, карта 96): *кавале́, нажэ́ : кавалі́, нажы́*

Канчаткі роднага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду (ДАБМ, карты 119–120):

*маладо́е дзе́ўкі, но́вае ха́ты : маладо́й (-э́й, -ы́й) дзе́ўкі, но́вай (-ый) ха́ты* і інш.

*маладо́е дзе́ўкі, но́вае ха́ты : молодо́і, но́ваі* і інш.

Націскны галосны ў канчатку 1-й асобы множнага ліку загаднага ладу дзеясловаў І спражэння (ДАБМ, карта 167):

*жн'ем(-е̂м) : жн'ом(-о̂м)* і інш.

*жн'ем(-е̂м) : жн'и́мо(а)* і інш.

Форма 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу дзеясловаў (ДАБМ, карты 170–172):

*иг'е́ц'е(иг'е̂ц'е), п'е́ц'е (п'е̂ц'е), γл'аг'е́ц'е (γл'аг'е̂ц'е)* і інш. : *иг'и́ц'а, п'и́ц'а, γл'аг'и́ц'а* і інш.

*иг'е́ц'е(иг'е̂ц'е), п'е́ц'е (п'е̂ц'е), γл'аг'е́ц'е (γл'аг'е̂ц'е)* і інш. : *ид'и́те (идите), п'и́йте, һл'ад'и́те, (һл'ади́те)* і інш.

Заўвага. На паўднёвай ускраіне выдзеленага арэала на **-ец'е** пашырана скарочаная форма тыпу *иг'ец'*.

# ЛІДСКА - БАБРУЙСКА - РЭЧЫЦКІ ПУЧОК

Карта №16




Галосныя на месцы „ě", „е" і „о" ў націскных закрытых, а на месцы „ě" і ў адкрытых складах (ДАБМ, карты 34–35):

*[л'ê]с, [л'ие]с, [б'ê]лы, [б'ие]лы, д[ô]м, д[уо]м, к[ô]нь, к[уо]нь* і інш. : *[л'е]с, [б'ê]лы, д[о]м*

*[л'ê]с, [л'ие]с, [б'ê]лы, [б'ие]лы, д[ô]м, д[уо]м, к[ô]нь, к[уо]нь* і інш. · *[л'и]с. [б'и]лы, [д'и]м, [ды]м, [к'и]нь, [кы]нь* і інш.

Заўвага. На картах ДАБМ 34, 35 не адзначаны [ê], [ô] к поўдню і захаду ад р. Шчары, аднак апошнія абследаванні гаворак гэтай тэрыторыі сведчаць аб наяўнасці тут закрытых галосных.

Тыпы скланення назоўнікаў, якія абазначаюць маладых істот (ДАБМ, карты 84, 86–88):

Н. *цяля́*, Р.М. *цяля́ці, аб цяля́ці*, Т. *цялём (цяля́м, це́лэм)* : Н. *цялё, цялёнак*, Р. *цяля́ці (цяля́), цялёнка*, М. *аб цяля́ці (цялю́), аб цялёнку* і інш.

Н. *цяля́*, Р.М. *цяля́ці, аб цяля́ці*, Т. *цялём (цяля́м, це́лем)* : Н. *тэля́ (тэлé)*, Р. *тэля́та (тэлéта)*, Т. *тэля́там (цяля́цем)*, М. *аб тэля́таві*

Націскны канчатак меснага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду (ДАБМ, карта 117):

*аб маладо́м* : *аб малады́м*

*аб маладо́м* : *аб маладо́му*

Форма роднага склону адзіночнага ліку жаночага роду ўказальнага займенніка *тая* (ДАБМ, карта 135):

*тае́ (то́е). тае́й* і інш. : *той, тэй* і інш.

*тае́ (то́е), тае́й* і інш. : *тэ́і (тэ́е)* і інш.

Заўвага. На карце 135 ДАБМ формы *тэ́і і тэ́е* абазначаны адным знакам (зялёным трохвугольнікам)

Аднаскладовыя і двухскладовыя склонавыя канчаткі займеннікаў *наш, ваш* (ДАБМ, карта 142): *на́шая ха́та, на́шае дзіця́, на́шую ха́ту, на́шыя ха́ты* : *на́ша ха́та, на́ша дзіця́, на́шу ха́ту, на́шы ха́ты*.

Заўвага. Пучок ізаглос акрэслівае толькі больш кампактны арэал пашырэння моўных з'яў. Спарадычныя формы паўночна-ўсходняй часткі тэрыторыі на данай карце не ўлічваліся.




Форма 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў II спражэння (ДАБМ, карта 154): *с'аг'имó, γл'аг'имó* і інш.: *с'аг'ѝм, γл'аг'ѝм*

Форма 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў нетэматычнага спражэння (ДАБМ, карта 161): *йамó, дамó : йаг'ѝм, йаг'óм, йадóм, даг'им, даг'óм, дадóм*

Назвы покуці (ДАБМ, карта 335)

*пóкуць, пóкут, пóкуцье* і інш. : *кут*

*нáкуць, нáкут* : *кут*



Ненаціскны канчатак назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду (ДАБМ, карта 97): *сёла, гнёзда, во́кна : сёлы, гнёзды, во́кны*

Заўвага. Ізаглоса акрэслівае толькі больш кампактны арэал пашырэння формы на **-а** Спарадычныя выпадкі такой формы, адзначаныя на паўночна-ўсходняй частцы тэрыторыі, на данай карце не ўлічваліся.

Ненаціскныя канчаткі назоўнага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду (ДАБМ, карты 113,124):

*но́ва : но́вая (ха́та)*

*но́ву : но́вую (ха́ту)*

Адрозніванне асабовых канчаткаў па спражэнню ў парадыгме цяперашняга часу (ДАБМ, карты 148–149, 153, 156–157): *ідзе́, ка́жа, хо́дзіць; ідýць, ка́жуць, хо́дзяць : ідзе́(ць), ка́жа(-ыць), хо́дзя(-іць); ідýць, ка́жаць (-уць), хо́дзяць(-уць)*

Форма 1-й асобы множнага ліку загаднага ладу (ДАБМ, карта 169): *иг'е́мо, сп'и́мо, ста́н'мо(-ма)* і інш. : *иг'е́м (-ом), с'п'им* і інш.

Месца націску ў вінавальным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду з асновай на **-а** (ДАБМ, карта 195 ): *но́гу, ру́ку, во́ду : нагу́, руку́, ваду́*

Форма назоўнікаў жаночага і ніякага роду ў спалучэнні з лічэбнікамі *два, дзве, тры, чатыры* (ДАБМ, карты 206–207): *дзве (тры, чаты́ры) ха́це. два, дзве (тры, чаты́ры) вакне́ (вакна́) : дзве (тры, чаты́ры) ха́ты, два (тры, чаты́ры) вакны́*




Формы назоўнага і роднага склонаў адзіночнага ліку назоўнікаў *бацька*, *дзядзька* (ДАБМ, карта 91): Н. *ба́цько(а)*, Р. *без ба́цька* : Н. *ба́цька (о)*, Р. *без ба́цькі*

Клічная форма назоўнікаў жаночага роду (ДАБМ, карта 94): *ма́мо, Ма́не̄, Ва́ле̄* : *ма́ма, Ма́ня, Ва́ля*

Месца націску ў форме меснага склону множнага ліку назоўнікаў *людзі, грудзі, сані* і інш. (ДАБМ, карта 106): *аб лю́дзях, у гру́дзях, у са́нях* і інш. : *аб людзя́х (-ё̄х), у грудзя́х (-ё̄х), у саня́х (-ё̄х)*.

Ненаціскны канчатак назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў ніякага роду (ДАБМ, карта 115): *но́ва (-о, -е) вядро́* : *но́вае (-е̄, -я) вядро́*

Заўвага. Апошнія дзве ізаглосы акрэсліваюць арэалы рассеянага пашырэння моўных з'яў.

## АШМЯНСКА - ЛОЕЎСКІ ПУЧОК

Карта №20




Форма вінавальнага склону множнага ліку адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду, якія абазначаюць жывёл (ДАБМ, карта 210): *пагнаў валы* : *пагнаў валоў*

Назвы бульбы (ДАБМ, карта 277): *картофля* : *бульба*

Назвы мянташкі (ДАБМ, карта 264): утварэнні ад кораня **мент-** : іншыя лексічныя варыянты

Ужыванне роднага або вінавальнага склону неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду ў спалучэннях тыпу *знайшоў грыба – знайшоў грыб* (ДАБМ, карта 211): *знайшоў грыба* : *знайшоў грыб*




Двухскладовая флексія творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў **а-** асноў і некаторых назоўнікаў былых асноў на **-і** (ДАБМ, карты 69–72 і складзеныя дадаткова): *зямл'óйу, хáтайу, гус'óйу, пуц'óйу : зямл'óй, хáтай, гус'óй, гýс'с'у, пуц'óй, пуц'óм*

Двухскладовая флексія творнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду (ДАБМ, карты 125,126): *маладóйу, нóвайу : маладóй, нóвай*

Форма творнага склону адзіночнага ліку ўказальна-асабовага займенніка жаночага роду 3-й асобы (ДАБМ, карта 132): *йóйу : йой*

Форма творнага склону адзіночнага ліку жаночага роду прыналежных займеннікаў (карта складзена дадаткова): *майóйу, твайóйу, свайóйу : майóй, твайóй, свайóй*

Форма творнага склону адзіночнага ліку жаночага роду ўказальнага займенніка (ДАБМ, карта 137): *тóйу (тайéйу, тéйу) : той (тей)*

Двухскладовая флексія роднага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду (ДАБМ, карты 119,120): *маладóе (-óі, -эе, -ые), нóвае (-аі) : маладóй (-эй, -ый), нóвай (-ый, -эй)*

Ненаціскны канчатак давальнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду (ДАБМ, карта 122): *к нóвуй : к нóвай*

Форма меснага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду (ДАБМ, карта 118): *у жóўтум : у жóўтым*

## ЛЕЛЬЧЫЦКА - МАЗЫРСКА - БРАГІНСКІ ПУЧОК

Карта №22




Дзеясловы, якія абазначаюць працэс баранавання (ДАБМ, карта 266): *валачы́ць* : *баранава́ць, скарадзі́ць* і інш.

Словы са значэннем 'латаць' (ДАБМ, карта 323): *крапі́ць* : *ла́таць, ла́піць*

Падзыўныя словы для кароў (ДАБМ, карта 304): па клічцы : *псе́йка-псе́йка, цёсь-цёсь, бы́цю-бы́цю* і інш.

Падзыўныя словы для курэй (ДАБМ, карта 306): *цю-цю-цю* : *ціп-ціп-ціп, пыль-пыль-пыль* і інш.

Назвы франтона (ДАБМ, карта 230): *фацыя́т* : *шчыт, зако́т, франто́н* і інш.

Назвы малой укладкі снапоў у полі (ДАБМ, карта 286): *ста́ўка, ставо́к, ставе́ц* : *ку́чка, ба́бка, мэ́ндля* і інш.

Варыянты галоснага ў зваротнай часціцы дзеясловаў (ДАБМ, карта 164): *баю́[с'е], баю́[се]* : *баю́[с'а], баю́[са], баю́[с'о], баю́[со]*

# ЛУНІНЕЦКА - ЖЫТКАВІЦКА - МАЗЫРСКІ ПУЧОК

Карта №23




Галосны ў ненацiскным канчатку 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння (ДАБМ, карта 157): *хóдз'ец', хóд'ет'. : хóдз'ац', хóдз'уц'*

Галосны на месцы тэматычнага „е" ў ненацiскным канчатку 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў I спражэння (ДАБМ, карта 151): *м'é[л'о]м, м'е[л'о]мо : м'é[л'а]м, м'é[л'и]м, м'é[л'е]м*

Націскны канчатак назоўнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў ніякага роду (ДАБМ, карта 114): *маладэ́е, маладэ́ : маладóе*

Назвы столі (ДАБМ, карта 228): *стóля : столь, повáл, пакóт* і інш.

ДАВЫД - ГАРАДОЦКА - СЛУЦКА - МАЗЫРСКІ ПУЧОК

Карта №24




Вымаўленне суфікса **-ічк-** у назоўніках жаночага роду на **-а** (ДАБМ, карта 43): *пал[і́цк]а* : *пал[і́чк]а*

Утварэнне дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу ад дзеясловаў *замкнуць, замыкаць* (ДАБМ, карта 180): *замы́каны, заму́каны* : *замкнёны, замкну́ты* і інш.

Назвы ручкі касы (ДАБМ, карта 260): *лучо́к* : *ру́чка, ку́лька*

Падзыўныя словы для кароў (ДАБМ, карта 304): *псе́йка-псе́йка (псе-псе)* : *цёлка-цёлка, тпрусь-тпрусь* і інш.

## ПІНСКА - СЛУЦКА - ПЕТРЫКАЎСКІ ПУЧОК

**Карта №25**




Назвы чапялы (ДАБМ, карта 251): *чапляя́* : *чапяла́, ёмка, ухва́т, скаваро́днік*

Дзеяслоў *мяўкае* (аб кошцы) і яго адпаведнасці (ДАБМ, карта 301): *я́ўкае* : *мя́ўкае, ка́ўкае* і інш.

Націскны канчатак назоўнага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду (ДАБМ, карты 112, 123): *малада́, маладу́* : *малада́я, маладу́ю*

ПРУЖАНСКА - САЛІГОРСКА - БРАГІНСКІ ПУЧОК

Карта №26




———— Ненаціскны канчатак творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на „а" з мяккай асновай і яго вымаўленне (ДАБМ, карта 72): *в'и́шн'ейу, в'и́шн'ей : в'и́шн'айу, в'и́шн'ай, в'и́шн'уй, в'и́шн'ий*

- - - - Пашырэнне слоў *стопка, варыўня, каморка* (ДАБМ, карта 240): *сцёпка : сто́пка, варыўня́, камо́рка*




Галосны на месцы „а" ў паслянацiскным закрытым складзе ў аснове слова (ДАБМ, карта 19): *зá[ŭе]ц, пá[м'е]ц'* : *зá[ŭа]ц, пá[м'а]ц'*

Вымаўленне слоў *быў* і *была* (ДАБМ, карты 40, 23): *буў, був, булá* : *быў, былá*

Зычныя на месцы мяккіх губных „б", „п", „в" у пазіцыі перад „а" (ДАБМ, карта 50): *[пŭ]ац', [п'ŭ]ац', [вŭ]áн'е* : *[п']ац', [в']áн'е*

Галосны на месцы тэматычнага „е" у ненацiскным канчатку 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў I спражэння (ДАБМ, карта 151): *м'él'ем(о)* : *м'él'ам, м'él'им, м'ел'ом*

Форма 3-й асобы множнага ліку нетэматычнага дзеяслова *есці* (ДАБМ, карта 162): *ŭадз'áц', ŭадз'éц'* : *ŭадýц'*

Назвы лемяша ў плузе (ДАБМ, карта 255 ): *сашнíк* : *ляме́ш, нарóг* і інш.




Вымаўленне слова *мёд* (ДАБМ, карта 30): *м'ед, мед* : *м'од, мйод, м'ид*

Вымаўленне слова *авёс* (ДАБМ, карта 29): *авйос* : *ав'ос, авес, ав'ес*

Утварэнне адноснага прыметніка ад слова *карова* (ДАБМ, карта 182): *каро́вяча, каро́ўяча* : *каро́ўя, каро́віна* і інш.

# СВІСЛАЦКА - БАБРУЙСКА - РЭЧЫЦКІ ПУЧОК

Карта №29




Націскная двухскладовая флексія творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду **а**-асноў (ДАБМ, карта 70): *земл'ёйу, мяжёйу, душёйу* : *з'амл'ой, м'ажой, душой*

Націскная двухскладовая флексія творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду былых асноў на **-і** (карты складзены дадаткова): *γус'ёйу, мышёйу, пуц'ёйу* : *γу́с'йу, мы́шйу, пуц'ойу, гу́с'с'у, мы́шшу, пуц'ом*

Націскная двухскладовая флексія творнага склону адзіночнага ліку прыналежных займеннікаў (карта складзена дадаткова): *майёйу, твайёйу, свайёйу* : *майойу, майёй, майой, твайойу, твайёй, майой, свайойу, свайёй, свайой*

Націскная флексія назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду з асновай на **-к** (ДАБМ, карта 99): *дзяўкі́, хусткі́* : *дзёўкі, ху́сткі* і інш.

Форма 3-й асобы ад дзеяслова *быць* (ДАБМ, карта 163): *йе* : *йес'ц', йос'ц'*

Націскны галосны ў канчатку 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу дзеясловаў II спражэння (ДАБМ, карта 155): *с'адз'иц'э́ (седытé)* : *с'адз'иц'о́*

Вымаўленне слова *далёка* (ДАБМ, карта 33): *дале́ка (далэ́ка)* : *далёка*

# ЦЕРАХОЎСКА - ГОМЕЛЬСКІ ПУЧОК

Карта №30




Назвы зруба студні (ДАБМ, карта 245): *ца́мра, цэ́мра : скры́ня, зруб* і інш.

Назвы абложнай зямлі (ДАБМ, карта 275): *тало́ка : абло́га , абло́г ... , я́лавіна* і інш.

Назвы фартуха (ДАБМ, карта 330): *за́пан : фарту́х, фа́ртух, пярэ́днік*

Назвы праніка (прылады, якой пераць бялізну) (ДАБМ, карта 252): *прач : пра́нік, апра́нік* і інш.

Назвы плоскуняў (ДАБМ, карта 283): *зама́шкі : пло́скуні, пласкуні́ ... , брані́цы* і інш.

Падзыўныя словы для авечак (ДАБМ, карта 305): *бар-бар-бар : шу-шу-шу, куцу́-куцу́-куцу́* і інш.

# МАЗЫРСКА - БАБРУЙСКА - ГОМЕЛЬСКІ ПУЧОК

Карта №31




Назвы чапялы (ДАБМ, карта 251): *ёмка : чапяла́, чапля́, скавaро́днік* і інш.

Назвы ўсходаў азімых (ДАБМ, карта 268): *скарада́ : рунь, усхо́ды, сыўба́*

Назвы прывязкі, якой прымацоўваецца біч да цапільна (ДАБМ, карта 259): *ка́піца : гу́жык* і інш.

Ненацiскны канчатак меснага склону адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду (ДАБМ, карта 118): *у жо́ўтам : у жо́ўтым, у жо́ўтум* і інш.




Націскны галосны на месцы „ы“ пасля губных зычных у займенніках *мы, вы* і ў канчатку назоўнікаў мужчынскага роду назоўнага склону множнага ліку (ДАБМ, карты 37,38,41): *му, ву, паграбу́ : мы, вы, паграбы́*

Націскны галосны на месцы „ы“ пасля губных зычных у корані слова (ДАБМ, карта 39): *бук, кабу́ла : бык, кабы́ла*

Галосны на месцы „ы“ ў ненаціскным канцавым адкрытым складзе пасля губных зычных (ДАБМ, карта 24): *ба́бу : ба́бы*

Галосны на месцы „ы“ ў першым складзе перад націскам у пазіцыі каля губных зычных (ДАБМ, карта 22): *пута́ц' : пыта́ц'*

Галосны на месцы „а“ ў паслянаціскным закрытым складзе ў форме давальнага склону множнага ліку назоўнікаў з мяккай асновай (ДАБМ, карта 20): *в'і́шн'ем, ка́пл'ем : в'і́шн'ам, ка́пл'ам, в'і́шн'ім, ка́пл'ім*

Форма творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў, якія абазначаюць маладых істот тыпу *цяля* (ДАБМ, карта 87): *ц'ал'а́м : ц'ал'о́м, ц'е́л'ем*




Форма інфінітыва дзеясловаў з асновай на [г] (ДАБМ, карта 178): *б'ераγц'и́, стры́γц'и : б'ераγчы́, стры́γчы*

Форма інфінітыва дзеясловаў з асновай на [к] (ДАБМ, карта 179): *п'е́кц'и : п'ачы́*

Агульныя назвы скаціны (ДАБМ, карта 293): *тава́р, худо́ба : скаці́на, жывёла* і інш.

Дзеяслоў *бляе* (аб авечцы) і яго адпаведнасці (ДАБМ, карта 302): *бэ́кае, мэ́кае : бляе́*

Назвы агароджанага месца для жывёлы ў полі ці ў лесе (ДАБМ, карта 232): *каша́ра : за́гарадзь, вы́гарадзь . . . , пастаўні́к* і інш.

